VERTIGO

issue 22 Apr 04

2.50 can 3.85

BILL WILLINGHAM
TONY AKINS
JIMMY PALMIOTTI

SUGGESTED FOR MATURE READERS

vertigocomics.com

# FABLES

## Cinderella Libertine

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ПАДАННІ #22

ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY







...аднак ніхто з вас ня можа адмаўляць...

...ён быў **вельмі** добры ў пасцелі.

# Распусная Папялушка

*Тут мы пазнаем штосьці пра таемнае жыццё трэцяй жонкі Выдатнага Прынца*


Bill Willingham *writer/creator*
Tony Akins *guest pencils*
Jimmy Palmiotti *guest inks*
Daniel Vozzo *color/seps*
Todd Klein *letters*
James Jean *cover art*
Mariah Huehner *asst. editor*
Shelly Bond *editor*


КІНЬ, ПАПЯЛУШКА. ТЫ САРОМІШ СНЕЖКУ.
НЕ САРОМЕЮСЯ Я. НЕ ТАКАЯ Я І РАНІМАЯ, ЯКОЙ МЯНЕ ЎЯЎЛЯЮЦЬ.
ПРОСТА НЕ РАЗУМЕЮ, ЧАМУ, КАЛІ МЫ СУСТРАКАЕМСЯ, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ АЎТАМАТЫЧНА СТАНОВІЦЦА АДЗІНАЙ ТЭМАЙ ДЛЯ РАЗМОВЫ.


СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО МЫ АРАГНІЗОЎВАЕМ ГЭТЫЯ ЛАНЧЫ ТОЛЬКІ З-ЗА ЯГО. МЫ НЕ СЯБРОЎКІ... ТЫМ БОЛЬШ НЕ СВАЯКІ. МЫ НЯ КРУЦІМСЯ Ў АДНЫХ КОЛАХ.
СНЕЖКА, ВАЖНАЯ АСОБА, ТАМУ ШТО КІРУЕ ФЭЙБЛТАЎНАМ ...ПРЫ **МІНІМАЛЬНАЙ** ДАПАМОЗЕ З БОКУ САПРАЎДНАГА МЭРА.


РУЖА ЦЕРНІ, ВАЖНАЯ АСОБА, ТАМУ ШТО Ў ЯЕ КАЗАЧНЫЯ БАГАЦЦІ.
А НЕБАРАКА ПАПЯЛУШКА ВЫМУШАНА БЫЦЬ ЗВЫЧАЙНАЙ ПРАДАЎНІЦАЙ Ў КРАМЕ АБУТКУ.


НЕ ЗУСІМ ДАКЛАДНАЕ АЗНАЧЭННЕ ТВАЙГО СТАНОВІШЧА, ПАПЯЛУШКА, УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО ТЫ ЯК ВАЛОДАЕШ «КРЫШТАЛЬНЫМ ТУФЛІКАМ», ТАК І КІРУЕШ ІМ.
ТАК ЦІ ІНАКШ, ДЗЯЎЧЫНКІ, МЫ ТАК РЭДКА БАЧЫМСЯ ТОЛЬКІ ДЗЕЛЯ АДНАГО **ЛАЙНЮКА**.


У НАС НЕШТА НАКШТАЛТ ШТОГАДОВАГА ПАСЯДЖЭННЯ Ў ЯГО ГОНАР. РАЗ У ГОД МЫ ЗБІРАЕМСЯ, КАБ ПАЦВЕРДЗІЦЬ, ШТО ЁН УСЁ Ж ТАКІ НЕПАПРАЎНЫ **ВЫБЛЯДАК** І ТАК ЖА ЗАСЛУГОЎВАЕ НАШАЙ КАЛЕКТЫЎНАЙ ПАГАРДЫ.


НЯЎЖО **НЕАБХОДНА** ВЫКАЗВАЦЦА ТАК ГРУБА?
ГЭТА **ДОБРЫ** РЭСТАРАН.
ТАК, ЧАМУ ТЫ ЎВЕСЬ ЧАС ТАКАЯ ЗЛАЯ, ПАПІ?


МАГЧЫМА ТАМУ, ШТО МНЕ СКЛАДАНЕЙ ЗА ЎСІХ.
З НАС ТРОХ Я БОЛЬШ УСІХ ПАПАКУТАВАЛА АД ВЫДАТНАГА ПРЫНЦА І ЯГО ПАВОДЗІН.
ГЭТА СМЕШНА.


АГА, Я Б ПАПРАСІЛА ЦЯБЕ АДКАЗАЦЬ ЗА СВАЕ СЛОВЫ. ШМАТ ГАДОЎ МЫ ПАРАЎНАЛІСЯ АДНА З АДНОЙ, КАБ Я ДАЗВОЛІЛА ТАБЕ ТАКОЕ СЦВЯРДЖЭННЕ.
ЁН АБЫХОДЗІЎСЯ З КОЖНАЙ З НАС З АДНОЛЬКАВАЙ ПАГАРДАЙ І ГРУБАСЦЮ.


МЕНАВІТА ГЭТА І ДАКАЗВАЕ МАЮ ІДЭЮ.
ЯК ЖА ТЫ ГЭТА ВЫСВЕТЛІЛА? Я ВЕЛЬМІ ЖАДАЮ ПАСЛУХАЦЬ.


«УСЁ ПРОСТА. БЕЛАСНЕЖКА БЫЛА ЖОНКАЙ НУМАР АДЗІН. ДА ГЭТАГА ЁН НІКОЛІ НЕ ЖАНІЎСЯ, ТАМУ Ў ЯЕ ВЫПАДКУ НАШ ПРЫНЦ-ПРЫГАЖУН МОГ НЯ ВЕДАЦЬ ПРА СВАЕ СЛАБАСЦІ Ў ПЫТАННЯХ ШЛЮБНАЙ АДДАНАСЦІ».


«ДАЛЕЙ ІДЗЕ РУЖА ЦЕРНІ, ЗНАКАМІТАЯ СПЯЧАЯ ПРЫГАЖУНЯ».
«МЫ ВЕДАЕМ, ШТО СПАЧАТКУ ЁН КАХАЎ ЦЯБЕ, ІНАКШ НІКОЛІ НЯ ЗМОГ БЫ АБУДЗІЦЬ ЦЯБЕ БЕЗ ПАЦАЛУНКУ САПРАЎДНАГА КАХАННЯ».


У ГЭТЫМ ВЫПАДКУ, ЁН УСЁ ЯШЧЭ МОГ ВЕРЫЦЬ, ШТО ЁН ЗДОЛЬНЫ НА ПРАЦЯГЛУЮ ПРЫХІЛЬНАЦЬ.
НЕ АТРЫМАЛАСЯ З БЕЛАСНЕЖКАЙ, ДЫК МОЖА ТАМУ, ШТО ЯНА ПРОСТА НЯ ТОЙ ЧАЛАВЕК?


ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО Я БЫЛА ЯГО ПРАВАМЕРНЫМ ДРУГІМ ШАН-ЦАМ?
УГУ.
КАЛІ СПРАВА ДАЙШЛА ДА ЖОНКІ НУМАР ТРЫ... **МЯНЕ**... ЁН ПАВІНЕН БЫЎ ВЕДАЦЬ, ШТО ПРАБЛЕМА Ў ІМ.
ПАВІНЕН БЫЎ ВЕДАЦЬ ПРА СВАЮ ХРАНІЧНУЮ ЦЯГУ ДА ЖАНЧЫН, І ПРА ТОЕ, ШТО Ў РЭШЦЕ РЭШТ ЁН ПАРАНІЦЬ І МЯНЕ.


У ВЫПАДКУ СА МНОЙ, ЁН УЖО НАПЕРАД ВЕДАЎ, ШТО **ЗНІШЧЫЦЬ** МЯНЕ, І ЎСЁ Ж ЯМУ БЫЛО ЎСЁ РОЎНА.
ТАКІМ ЧЫНАМ, ЛЭДЗІ, МНЕ ЗАСЛУ-ЖАНА ГОРАЙ, ЧЫМ ВАМ.


НУ А ЦЯПЕР, КАЛІ ВЫ МЯНЕ ПРАБАЧЫЦЕ, ТУТ, БЕЗУМОЎНА, ВЕСЕЛА, АЛЕ Я СПАЗНЯЮСЯ.
СПЯШАЮСЯ Ў АЭРА-ПОРТ, ДЗЕЛЯ ВЫ-ДАТНАГА І БЕСПРЫ-ЧЫННАГА ВОДПУСКУ Ў ЕЎРОПЕ.


**ЗНОЎ?** ТВАЯ КРАМА АБУТКУ, БАЧНА, ПРЫНОСІЦЬ ТАБЕ БОЛЕЙ, ЧЫМ ТЫ КАЖАШ.
**НАСУПРАЦЬ,** СПРАВА ІДЗЕ ВЕЛЬМІ ЛАЙНОВА.
І Я НІ РАЗУ НЕ ПАДЫХОДЖУ НА РОЛЮ **ГАНДЛЯРКІ**.


«ТАМУ Я МАЮ НАМЕР ПАТРАЦІЦЬ ТОЕ, ШТО ЗАСТАЛОСЯ АД АКТЫВАЎ КАМПАНІІ...»
Stone Soup
«...ПАКУЛЬ МАЕ КРЭДЫТОРЫ НЕ ДАВЕДАЛІСЯ, ШТО Я ЗНІКЛА З ІХ ГРАШАМІ».
**ТАКСІ!**


ТАК, СЭР, ЯНЫ З ТРЫБУХАМІ КУПІЛІСЯ НА ПАВОДЗІНЫ «ЗЛАСЛІВА БЫЛОЙ ЖОНКІ».


ЗАРАЗ ПА ЎСІМ ФЭЙБЛТАЎНЕ РАЗНЯСЕЦЦА ЧУТКА ПРА ТОЕ, ШТО Я НЯ ТОЛЬКІ ЖУДАСНАЯ **ЖАНЧЫНА**, АЛЕ ЯШЧЭ І **БАНКРУТ**.
Hôtel de nos Gloires Fanées


НІХТО НЕ ЗАПАДОЗРЫЦЬ, ЧАМУ Я НА САМОЙ СПРАВЕ Ў ПАРЫЖЫ.
Hôtel de nos Gloires Fanées


МЫ ІДЗЕМ ПА ГРАФІКУ.
ЗРАЗУМЕЛА, Я БУДУ.
ВЫ МОЙ СПАДАР І ЎЛАДАР, І Я ТАЙНА СЛУЖУ ТОЛЬКІ ВАМ.


УППС, ЗВАНОК У ДЗВЕРЫ. МНЕ ТРЭБА БЕГЧЫ.
МОЙ КАВАЛЕР ПРЫЙШОЎ РАНЕЙ, ЯК І ЗВЫЧАЙНА. ЁН ВЕЛЬМІ НЕЦЯРПЛІВЫ.


АДНУ ХВІЛІНКУ!
УЖО ІДУ!


ІКІ!
ШАНОЎНЫ!


I. Crane


Я Б ЖАДАЎ, КАБ ТЫ МЯНЕ ТАК НЕ НАЗЫ-ВАЛА.
ІКІ?


АЛЕ ГЭТА ТАК МІЛА І СКАРОЧА-НА АД...
Я НЕ АДА-БРАЮ ЎСЯЛЯКІЯ ПРЫМЯНШЭННІ.


ЦУДОЎНА, ХАЙ БУДЗЕ ІКАБОД. ЦІ ЛЕПЕЙ МІСТЭР КРЭЙН? А ТО І СЭР?
О, ШАНОЎНАЯ, КАЛІ ЛАСКА, НЯ КРЫЎДЗІСЯ. Я НЕ ЖАДАЎ...


Я ВЕДАЮ, ШТО НАМ ТРЭБА ВЕСЦІ СПРАВЫ, АЛЕ НЯ ДУМА-ЛА, ШТО ПАМІЖ НАМІ ТОЛЬКІ ДЗЕЛАВЫЯ АДНОСІНЫ.
АЛЕ...


Я АДВАЖЫЛАСЯ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО ПАМІЖ НАМІ ЦЯГА.
ЯНА ЁСЦЬ!


МАБЫЦЬ НАВАТ ПАЧАТАК ЧАГОСЬЦІ **БОЛЬШАГА**.
ПАПЯЛУШКА, Я **АБАЖАЮ** ЦЯБЕ!
І ТЫ **ВЕДАЕШ** ГЭТА!

ПРАЎДА?
І Я ПАВАР'ЯЦКУ ЦЯБЕ КАХАЮ.
ЧАМУ, ПА-ТВАЙМУ, Я ГЭТА РАБЛЮ?

ДЗЕЛЯ **МЯНЕ**?
ДУМАЕШ, Я Б ПРАДАЎ ФЭЙБЛТАЎН І ЎВЕСЬ СВЕТ ЗВЫЧАЙНЫХ ДЗЕЛЯ **МЕНШАГА**?


О, МОЙ **ДАРАЖЭНЬКІ**!




ПРАЧЫНАЙСЯ, СОНЯ. ТЫ ПРАПУСКАЕШ ЦУДОЎНУЮ РАНІЦУ.
Hôtel de nos Gloires Fanées


ВЯРНІСЯ Ў ЛОЖАК.


Я НЕ МАГУ.


ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ АДНУ СПРАВУ, ЯКУЮ МЫ МІНУЛАЙ НОЧЧУ ТАК І НЕ ПАЧАЛІ З-ЗА ТАГО, ШТО **ЖЫВЁЛЬНАЕ** ПАЧУЦЦЁ ПЕРАМАГЛО ЦЯБЕ.


А **ПОТЫМ** Я ЎГАВАРУ ЦЯБЕ ЗВАДЗІЦЬ МЯНЕ ПАСНЕДАЦЬ.


ХІБА ГЭТА РАЗУМНА?


ХОПІЦЬ ГУЛЯЦЬ У ХОВАНКІ.
Я ЖАДАЮ ПАКАЗАЦЬ СВАЙГО **МУЖЧЫНУ** ЎСЯМУ СВЕТУ.


КАЛІ, ЗРАЗУМЕЛА, ТЫ НЯ СУПРАЦЬ, КАБ НАС **БАЧЫЛІ** РАЗАМ.


ТЫ ШТО, **ЖАРТУЕШ**?
ВА ЎСІМ **СВЕЦЕ** НЯМА МЕСЦА, ДЗЕ Б Я НЯ БЫЎ ГОРДЫ, ЯК ПАЎЛІН ТАМУ, ШТО ТЫ ПОБАЧ СА МНОЙ.


ТАДЫ ПАДПІШЫ ВОСЬ ТУТ, І МЫ **Ў СПРАВЕ**.
**ШТО** ГЭТА?
АФІЦЫЙНЫ **ДАКУМЕНТ**, ЯКІ ГАРАНТУЕ, ШТО, КАЛІ ЎЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ МАЙГО ЎЛАДАРА ПЕРАЙДУЦЬ У НАСТУП, ТЫ БУДЗЕШ НАЗНАЧАНЫ ІМПЕРСКІМ ГУБЕРНАТАРАМ ГЭТАГА СВЕТУ...
...З УСІМІ ПРАВАМІ, АБАВЯЗКАМІ, ПРЫВІЛЕЯМІ І ДАРАМІ – ЯКІЯ НАЛЕЖАЦЬ.


А ТЫ СТАНЕШ МАЁЙ **ЖОНКАЙ**? БУДЗЕШ КІРАВАЦЬ СА **МНОЙ**?
АДРАЗУ, ЯК ТОЛЬКІ ТЫ ПРАДСТАВІШ МЯНЕ **СУМЛЕННАЙ** ЖАНЧЫНАЙ.


НАМ **ЗАРАЗ ЖА** ТРЭБА ЗНАЙСЦІ СВЯТАРА!
НЯ ТАК ХУТКА, ДУРНЕНЬКІ.


У АБМЕН НА МАЕ ПАСЛУГІ ІМПЕРЫІ, МОЙ УЛАДАР АБЯЦАЎ МНЕ **ГРАНДЫЁЗНАЕ** ВЯСЕЛЛЕ ПРЫ ДВАРЫ.


З УСІМ, ШТО ПАТРЭБНА.


ТАМ БУДЗЕ САМ ВОРАГ?
ЁН І **ПРАВЯДЗЕ** ЦЫРЫМОНІЮ.


АДНАК, ІКАБОД, БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ ЎЗДУМАЙ НАЗЫВАЦЬ ЯГО ГЭТЫМ ГРУБЫМ І ВУЛЬГАРНЫМ ІМЕМ.
ЯГО АДДАНЫЯ ПАДДАНЫЯ, ДА ЯКІХ ТЫ ЦЯПЕР ПРЫЛІЧАНЫ, ЗВЯРТАЮЦЦА ДА ЯГО ЯК ДА **ІМПЕРАТАРА**, З НАЛЕЖНАЙ ПАВАГАЙ І ПАШАНАЙ.


ТЫ ЯГО **ВЕДАЕШ**? ТЫ **АСАБІСТА** БАЧЫЛА ЯГО?
ХТО ЁН? У ФЭЙБЛТАЎНЕ ЎСЕ **НАДЗВЫЧАЙНА** ЖАДАЮЦЬ ВЕДАЦЬ ГЭТА...!


ЗАБУДЗЬ. БОЛЕЙ НІЯКІХ САКРЭТАЎ, ПАКУЛЬ ТЫ МЯНЕ НЕ НАКОРМІШ.


ІДЗІ ПРЫМІ ДУШ, СМЯРДЗЮЧКА, ПАКУЛЬ Я НЕ ПАМЁРЛА З ГОЛАДУ.




CLIK




УСЁ ЗРОБЛЕНА. ЁН ПАДПІСАЎСЯ.
НАС НЯ БУДЗЕ Ў ПАКОЯ ПРЫБЛІЗНА ГАДЗІНУ.

TAP

СПЯШАЙСЯ, МІЛЫ.

НАМ ТРЭБА ІСЦІ.


Я КІРАВАЎ ФЭЙБЛТАЎНАМ НА ПАСАДЗЕ НАМЕСНІКА КАРАЛЯ КОЛЯ КАЛЯ СТА ПЯТНАЦЦАЦІ ГАДОЎ.
ТАДЫ БЕЛАСНЕЖКА БЫЛА МАЁЙ ПАМОЧНІЦАЙ, ЯК ЗАРАЗ ПАСТУШОК ПРЫ ЁЙ.
ШТО Ж ЗДАРЫЛАСЯ? Я ПАМЯТАЮ, ШТО БЫЎ НЕЙКІ **СКАНДАЛ**, АЛЕ КАНКРЭТНЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЦІ МЯНЕ ПАЗБЕГЛІ.
УСЁ ГЭТА ГЛУПСТВА І ДРЭНЬ. БЕЛАСНЕЖКА ВЫСТАВІЛА ШЭРАГ... **АБВІНАВАЧАННЯЎ**.
МНЕ ПАДАБАЛАСЯ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ У КАБІНЕЦЕ РАЎНАПРАЎНЫЯ АДНОСІНЫ, А ЯНА СЦВЯРДЖАЛА, ШТО ЁЙ НЕКАМФОРТНА З-ЗА ПЭЎНАЙ ФАМІЛЬЯРНАСЦІ.


ЛУХТА І ГЛУПСТВА, ЯК Я І КАЗАЎ. Я СПРАБАВАЎ ПАКАЗАЦЬ ЁЙ СВАЕ **АДНОСІНЫ** ДА ЯЕ ДОБРАЙ ПРАЦЫ, А ЯНА ВЫРАШЫЛА НЯПРАВІЛЬНА РАСТЛУМАЧЫЦЬ МОЙ ЖЭСТ.
А ХІБА ТЫ НЕ СПРАБАВАЎ ПАЦАЛАВАЦЬ ЯЕ ЗА ЗАЧЫНЕНЫМІ ДЗВЯРАМІ?
КАЛІ АЗІРАЦЦА НАЗАД, Я РАЗУМЕЮ, ШТО ЯНА БЫЛА АМБІЦЫЁЗНАЯ, І ЯЕ АБВІНАВАЧАННІ БЫЛІ НАКІРАВАНЫ НА ТОЕ, КАБ ЗНЯЦЬ **МЯНЕ** З ПАСАДЫ І ЗАНЯЦЬ МАЁ МЕСЦА.
ВЫ ТАМ САЧЫЦЕ ЗА ЁЙ. ЯНА ТАЯ ЯШЧЭ ЗМЯЯ. НАВАТ СФАБРЫКАВАЛА ДОКАЗЫ ТАГО, ШТО Я РАСКРАДАЎ ФОНДЫ СУПОЛЦЫ. МНЕ ЗАСТАВАЛАСЯ ЗЛАЖЫЦЬ ПАЎНАМОЦТВЫ, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ АФІЦЫЙНЫХ АБВІНАВАЧАННЯЎ.
Se.7
La Seine


КАЛІ ВОЙСКІ ІМПЕРАТАРА ПРЫДУЦЬ, І ТЫ ЗНОЎ БУДЗЕШ НА КАНІ, УСТАЛЯВАЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ БУДЗЕ АСАБЛІВА ПРЫЕМНА.
О ТАК.
МЫ АДПЛАЦІМ ГЭТАЙ НАХАБНІЦЫ ПА ЗАСЛУГАХ... НА АГУЛЬНАЙ ПЛОШЧЫ І НА НОВАЙ ВЯРОЎЦЫ.


ЦЯПЕР Я Б ЖАДАЎ ПАСЛУХАЦЬ ТВАЮ ГІСТОРЫЮ. ЯК ТЫ АБ'ЯДНАЛАСЯ З ВОРА... КХМ, ІМПЕРАТАРАМ?
ТЫ ДАЎНО ШПІЁНІШ ДЛЯ ЯГО?
ГЭТА ЗУСІМ **НЕ ПРЫЕМНАЯ** ГІСТОРЫЯ.


Я БЫЛА З ІМ УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС. З САМАГА ПРЫХОДУ Ў ГЭТЫ СВЕТ.


РАСКАЖЫ. Я ЖАДАЮ ВЕДАЦЬ ПРА ЦЯБЕ **ЎСЁ**.
ДОБРА. АЛЕ ТОЛЬКІ НЯ ТУТ.


МЫ ЎЖО ЗДОРАВА ПЕРАТРАВІЛІ НАША СНЕДАННЕ.


ВЕРНЕМСЯ Ў НАШ НУМАР... НАШ ЛОЖАК... ДЗЕ ТЫ АБДЫМЕШ МЯНЕ, ПАКУЛЬ Я БУДУ ПАВЕДАМЛЯЦЬ СВАЮ ГІСТОРЫЮ.


ХУТЧЭЙ!
АДЧЫНЯЙ ДЗВЕРЫ!
МНЕ ТРЭБА...
TUNK
TUNK
CLICK


...Я ПАВІНЕН УЗЯЦЬ ЦЯБЕ, ЗАРАЗ ЖА!
УВОГУЛЕ, НЯ ДУМАЮ, ШТО ТЫ ЗМОЖАШ ЗА-РАЗ УЗЯЦЬ МЯНЕ, ШАНОЎНЫ ІКІ.
ШТО?
ПАПЯЛУШКА, ДАРАЖЭНЬКАЯ, ШТО ТЫ..?


БАЮСЯ, ЗАРУЧЫНЫ КАСУЮЦЦА, ІКІ.
БОС, СУСТРА-КАЙЦЕ ІКАБОДА КРЭЙНА.


БАЧЫЛІСЯ ЎЖО.
Я НЕКАЛІ ПРАЦАВАЎ НА ЯГО, ПАМЯТАЕШ?
БОЗЛІ? ТУТ? АЛЕ...


ПАПІ, ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА?
Я ПРАЦУЮ ЯКРАЗ НА БОЗЛІ.


ТЫ?
ТЫ І ЁСЦЬ ВОРАГ?


НЯ ТУПІ, КРЭЙН. Я Ў ДАКЛАДНАСЦІ ТОЙ, КІМ ТЫ МЯНЕ ЗАЎСЁДЫ ВЕДАЎ.
Я АДДАНЫ ФЭЙБЛТАЎНУ. І ПАПЯЛУШКА ТАКСАМА.


АДЗІНЫ САПРАЎДНЫ ЗДРАДНІК У ГЭТЫМ ПАКОІ – ГЭТА ТЫ.
ТЫ ПРАДАЎ НАС ЗА ЗВЫЧАЙНЫ ЗДРАДНІЦКІ НАБОР.


ГРОШЫ, СЭКС І ЎЛАДУ.
АЛЕ...
Я КА-ХАЮ ЦЯБЕ.


ХОПІЦЬ, А ТО МЯНЕ **ЗВАНІТУЕ**.
УСЕ ДОКАЗЫ Ў ЯГО КЕЙСЕ, БОЗЛІ.
ЁН ВЫКРЫВАЕ НАШУ МАГЧЫМУЮ ВАЕННУЮ МОЦ І ПРЫВОДЗІЦЬ ПАДРАБЯЗНАЕ ПЕРАЛІЧЭННЕ НАШЫХ ТАКТЫЧНЫХ МАГІЧНЫХ АРТЭФАКТАЎ.
А ТАКСАМА АНАЛІЗ НАШАГА ЗБРОЕВАГА ВЫРАБУ НА ФЕРМЕ.


І АКРАМЯ ТАГО, СПРАВАЗДАЧА НА КОЖНАГА КАЗАЧНАГА, ЯКІ ЖЫВЕ...
ВЕДАЮ, ПАСПЕЎ ПАЧЫТАЦЬ, ПАКУЛЬ ВАС НЕ БЫЛО.


**АСАБЛІВА** МНЕ СПАДАБАЛАСЯ, ШТО ЁН НАПІСАЎ ПРА МЯНЕ.
БЫЎШЫ БЫЛЫМ НАСТАЎНІКАМ ПІСЬМА, ЁН, ВІДАВОЧНА, ЗНАЙШОЎ НОВЫ СПОСАБ УЖЫЦЬ СЛОВЫ «ДВАРНЯК» І «ПАБІТАЯ КУДЛА» У АДНЫМ СКАЗЕ.
А ЯШЧЭ ТАМ ЁСЦЬ МАЛЯЎНІЧАЯ СЭКСУАЛЬНАЯ ФАНТАЗІЯ ПРА СНЕЖКУ.


НЕ, БОЗЛІ, ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ!
Я НЕ ВІНАВАТЫ! ГЭТА ЎСЁ З-ЗА ЯЕ! ХІБА ТЫ НЯ БАЧЫШ?
ЯНА ЗДРАДНІЦА, А КАЛІ ЯНА СКАЗАЛА МНЕ, ШТО ПРАЦУЕ НА ВОРАГА, Я, УВОГУЛЕ...
...Я ПАДЫГРАЎ, ВЫКЛЮЧНА ДЗЕЛЯ ХІТРАСЦІ...


КАБ ЯНА ПАПАЛАСЯ І ВЫКРЫЛА СЯБЕ!


ГЭТА БЫЛА ЗАСАДА, БОЗЛІ! ЗАСАДА! Я ПРАПРАЦОЎВАЎ ПАПІ!
НА КАРЫСЦЬ ФЭЙБЛТАЎНА!
РУКІ ПРЭЧ, КРЭЙН. ГАРНІТУР ЗАПЭЦКАЕШ.


Я НЕ ЖАДАЎ МЕЦЬ НІЯКІХ АДНОСІН ДА ВАШАГА ПАЛЯВАННЯ НА ВЯДЗЬМАРАК. ТУТ У ВАС НЯМА НІЯКАЙ УЛАДЫ!




WHACK




ЁН НАВАТ ПАДПІСАЎ ПОЎНАЕ ПРЫЗНАННЕ, ЗАМАСКАВАНАЕ ПАД КАНТРАКТ ПРА СВАЁ МЕСЦА ПРЫ НОВЫМ РЭЖЫМЕ.
АГА, Я БАЧЫЎ.


ПАЧАКАЙ ЗНАДВОРКУ, ПАПЯЛУШКА, Я ТУТ ПАКУЛЬ ПАГУТАРУ З НАШЫМ ХЛОПЧЫКАМ.
І ШТО ЦЯПЕР БУДЗЕ? ВЫ З ГАНЬБАЙ ПРЫЦЯГНЕЦЕ МЯНЕ Ў ФЭЙБЛТАЎН?


НЕ. ЯК ТЫ І КАЗАЎ, У МЯНЕ ТУТ НЯМА НІЯКАЙ УЛАДЫ.
Я ХУТКА ЦЯБЕ АДПУШЧУ.
ЗРАБІ ЛАСКУ, ВЫГЛЯНІ Ў АКНО.
СКАЖЫ, КАЛІ ПАПЯЛУШКА З'ЯВІЦЦА ЎНІЗЕ Ў ДВАРЫ.


ВОСЬ І ЯНА.


TAXI






















Далей: Марш драўляных салдатаў працягваецца!